# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### ГІГАНЦКІ МЕТАЛУРГІЧНЫ КАМБІНАТ

На тэрыторыі СССР пад Курскам будзе пабудаваны гіганцкі металургічны камбінат, супольная інвестыцыя краін Савета эканамічнай узаемадапамогі. Зараз канструктары і праектанты СССР, Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, ГДР, Румыніі і Венгрыі апрацоўваюць дакументацыю камбіната. Пасля кансультацыі да рэалізацыі будзе прыняты найлепшы праект.

За пабудовай гэтага гіганцкага металургічнага завода прамаўляе перш за ўсё рэнтабельнасць. Зараз эканамічна аплачваецца будаваць велізарныя адзінкі. Паасобныя краіны СЭУ маглі б дазволіць на пабудову гэтага тыпу аб'ектаў сярэдняй велічыні, што з эканамічнага пункту гледжання было б неаплатным. Дзеля гэтага было прынята спалучыць намаганні і фінансавыя сродкі.

Кожная з краін СЭУ ўнясе роўны ўклад у пабудову і прадукцыю завода. Польшча, напрыклад, будзе пастаўляць доменны кокс.

### ІНТЭРВ'Ю КІМ ІР СЕНА

Прэм'ер Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі Кім Ір Сен даў інтэрв'ю амерыканскаму часопісу Нью-Йорк таймс». У інтэрв'ю заявіў ён, што адносіны паміж ЗША і КНДР могуць палепшыцца толькі тады, калі будуць адклікаы амерыканскія войскі з Паўднёвай Карэі. Вывядзенне амерыканскіх войск адкрыла б дарогу мірнаму спалучэнню краіны, што магло б наступіць пры ўдзеле абедзвюх частак Карэі і без інтэрвенцыі звонку. Кім Ір Сен высунуў прапанову стварэння свайго роду канфедэрацыі ўсёй краіны і Найвышэйшага Нацыянальнага Камітэта, які кансультаваў бы і абмяркоўваў справы, цікавячыя абедзве часткі краіны, прычым Поўнач захавала б камуністычную сістэму, а Поўдзень — капіталістычную.

### НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ

Рэвалюцыйны Савет Ірака ад 1 чэрвеня 1972 г. нацыяналізаваў «Ірак Петролеум Компаны». Сірыя таксама прыняла пастанову аб нацыяналізацыі маёнтку «IPC» на тэрыторыі гэтай краіны, г.зн. перш за ўсё нафтаправодаў, якія вядуць з нафтавых палёў Ірака да сірыйскіх партоў над Міжземным морам.

### ТЭРАРЫСТЫ АРЫШТАВАНЫ

У ФРГ арыштавана больш 40 членаў тэрарыстычнай арганізацыі Бадэр-Майнгоф з яе шэфам Бадэрам на чале. Гэтая арганізацыя больш чым 2 гады рабіла бамбовыя замахі на тэрыторыі ўсёй Заходняй Германіі.

### ПЕРААЦЭНКА

Нацыянальны савет бяспекі Філіпін прагаласаваў за перагляд існуючых ваенных і эканамічных дагавораў са Злучанымі Штатамі, уключаючы пагадненне аб амерыканскіх ваенных базах у гэтай краіне.

### РАДЫ КПЧ

Пасля абмены партыйных білетаў у КПЧ партыйныя арганізацыі Славакіі прынялі 12,5 тысяч чалавек. Толькі за першы квартал гэтага года прынята тут 3.245 кандыдатаў у члены партыі.

(ак)



## БССР

### ЛЮСТРА БЕЛАРУСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі Беларусі займае плошчу ў 4 квадратных кіламетры. Зараз знаходзіцца на ёй звыш 4500 экспанатаў, якія адлюстроўваюць небывалы росквіт самых розных галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі рэспублікі за гады Савецкай улады.

У сувязі з 50-годдзем утварэння Саюза ССР кіраўніцтва выстаўкі рыхтуе новую, спецыяльную экспазіцыю «Беларусь у брацкай сям'і саюзных рэспублік». Адкрыццё яе прадбачана на 15 снежня 1972 года.

### З ДЫПЛОМАМІ Ў КІШЭНІ

Канчаецца чарговы навучальны год. Сёлета ў 13-ці вышэйшых навучальных установах Мінска атрымаюць дыпломы каля 15-ці тысяч выпускнікоў па 128-мі розных спецыяльнасцях, сярод якіх знойдуцца зусім новыя. Значна расшырана падрыхтоўка спецыялістаў па электронна-вылічальнай тэхніцы, машынабудаванню і прыборабудаванню, эканоміцы.

### ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ

Адбыўся ў Мінску IV пленум Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом. У працы пленума прымалі ўдзел прадстаўнікі кіруючых устаноў БССР, выдатныя пісьменнікі (Я. Брыль, А. Бачыла, Л. Прокша і іншыя), вядомыя вучоныя (напр. Л. Абецэдарскі) і праслаўленыя мастакі. Са справаздачай выступіў старшыня прэзідыума таварыства Рыгор Шырма, які дарэчы распачаў ужо 9-ты дзесятак свайго жыцця.

### РУКАПІСЫ ГУРЫНОВІЧА

Адам Гурыновіч (1869—94) — беларускі паэт. Яго пляменніца, прафесар Яніна Гурыновіч, пасля апошняй вайны перасялілася ў Польшчу. Яна перавезла з сабой некаторыя рукапісы паэта. Адшукаў яе вядомы даследчык Адам Мальдзіс. Яніна Гурыновіч згадзілася перадаць гэтыя рукапісы ў Беларусь. Сваю волю яна пацвердзіла ў перадсмяротным завяшчанні, выканаўца якога Лешак Янішэўскі з Торуня перадаў Гурыновічаўскія матэрыялы савецкаму пасольству ў Варшаве. Цяпер фонд паэта захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР. Сярод рукапісаў Гурыновіча, якія паступілі з Польшчы, выяўлены вершы і іншыя творы на беларускай, польскай і рускай мовах. Значная частка фонду — асабістая перапіска Адама Гурыновіча.

### ВЕСТКІ З ІЎЯ

Іўе — старажытны пасёлак Беларусі. Гісторыя аднак не спрыяла яго развіццю. Толькі ў апошніх гадах наглядаюцца ў Іўі прыкметныя ды карысныя змены. Бачым тут новы Дом саветаў, універмаг, пошту, дом культуры, дом быту. Асабліва выдзяляецца новая вуліца імя 50-годдзя Кастрычніка. Ля яе з'явілася сярэдняя школа, дзіцячы сад і яслі, аўтавакзал, 6 шматкватэрных дамоў. У пабудове 24-кватэрны жылы дом, гасцініца і іншыя будынкі.

(вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА

8 чэрвеня закончылася пленарнае пасяджэнне Сейма, на якім была абмеркавана і прынята пастанова аб пяцігадовым плане (1971—1975). На пасяджэнні Сейма прыняты новыя законы: аб арганізацыі рамесніцтва і грамадскім страхаванні рамеснікаў, аб вайсковых судах і аб утварэнні Упраўлення міністра па справах ветэранаў. Міністрам назначаны М. Грудзень. У пленарным пасяджэнні Сейма прымалі ўдзел: І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк, старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі і прэм'ер П. Ярашэвіч. У дыскусіі выступала 25 паслоў. Усе яны выказалі сваю падтрымку праекта пастановы аб пяцігадовым плане. З абшырнай прамовай выступіў П. Ярашэвіч. Ён заявіў, што высокая дынаміка гаспадарчага росту з'яўляецца добрым стартам да далейшага развіцця краіны.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

9 чэрвеня адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім былі разгледжаны справы, звязаныя з правільнай рэалізацыяй пастаноў, абмеркаваны праекты двух законаў — аб прадаўжэнні мацярынскіх водпускаў і аб павышэнні дапамогі, прыслугоўваючай з грамадскага страхавання на выпадак хваробы, прыняты праект новай праграмы ў справе паляпшэння бяспекі дарожнага руху і праект новага статута Міністэрства суднаходства. Варта адзначыць, што законы аб прадаўжэнні мацярынскіх водпускаў і аб павышэнні дапамогі ў выпадку хваробы Сейм намераны ажыццявіць ужо ад 1 ліпеня г.г.

### ВІЗІТ Ф. КАСТРО

У мінулым тыдні прыехала з візітам у Польшчу партыйна-ўрадавая дэлегацыя Кубы на чале з прэм'ерам Ф. Кастро. На працягу некалькіх дзён пабыўкі ў нашай краіне госці наведалі Шлёнск, Кракаўскае і Гданьскае ваяводствы. Правялі яны рад сустрэч з прадстаўнікамі найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад, а таксама з рабочымі калектывамі паасобных прадпрыемстваў.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

8 чэрвеня 1 сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк знаёміўся з рэалізацыяй найважнейшых інвестыцыйных задач і планамі развіцця Варшавы. Наведаў ён некаторыя раёны сталіцы, а таксама правёў сустрэчу з гарадскім партыйным і гаспадарчым актывам.

### «БІЗОНЫ»

Рабочы калектыў Люблінскай фабрыкі сельскагаспадарчых машын абавязаўся выпрадукаваць звышпланава каля 100 штук камбайнаў «Бізон». Агулам за першае паўгоддзе фабрыка даставіць на рынак каля 1000 «Бізонаў».

### ПОЛЬСКІ «Ф'ЯТ-126»

Ужо пад канец 1973 года будзе распачата серыйная прадукцыя новых польскіх «Ф'ятаў - 126».

(яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВКЗЗ

6 чэрвеня ў Беластоку адбыўся пленум Ваяводскай камісіі прафсаюзаў. Вёў пленум член экзекутывы ВК партыі, старшыня ВКЗЗ Ю. Трусевіч. Прысутнічала на пленуме член Бюро Прэзідыума ЦРЗЗ Д. Галкова. Абмяркоўваліся вельмі складаныя справы — міжлюдскія адносіны на прадпрыемствах. Атмасфера паміж людзьмі на прадпрыемствах аказвае вялікі ўплыў і на прадукцыйныя вынікі. Асабліва падкрэслівалася ў дыскусіі значэнне адносін па лініі рабочыя — дырэкцыя.

У пастанове, прынятай на пленуме, прапануецца ўсім прафсаюзным арганізацыям, разам з адміністрацыяй прадпрыемстваў, увесці метад сістэматычных ацэнак становішча на прадпрыемствах пры ўдзеле ўсіх рабочых, частыя кансультацыі з калектывам і г.д. Міжлюдскія адносіны павінны абмяркоўвацца на канферэнцыях рабочага самакіравання.

### СЕСІЯ ГАСТРОЛАГАЎ

Нядаўна ў Белавежы адбылося пасяджэнне секцыі гастраінтэралогіі Таварыства польскіх інтэрністаў. Удзельнічалі ў сесіі лекары з розных медыцынскіх цэнтраў краіны, былі таксама прадстаўнікі гастролагаў з ГДР, Чэхаславакіі і Венгрыі.

На сесіі каля 250 спецыялістаў абменьвалася метадамі лячэння. Беластоцкія хірургі з Ваяводскай бальніцы імя Я. Снядэцкага прадставілі найшырэй у Польшчы навукова апрацаваны матэрыял па лячэнню вострага запалення жоўцевага пухіра.

### ДЗЕЦІ Ў Э. ЗЛАТАЖЫНСКАГА

На заканчэнне Тыдня дзіцяці сакратар ВК партыі Э. Златажынскі прыняў дэлегацыю дзіцячых самакіраванняў з Беластока. Дзеці здалі сакратару рапарт аб выкананні сваіх абавязацельстваў для адзначэння Міжнароднага дня дзіцяці. Дзеці ўпарадкавалі пляцоўкі для гульняў, адрамантавалі паркавае абсталяванне для забаў, садзілі кветкі, упрыгожвалі святліцы.

### 1 МЕСЦА

Вёска Курашава, Гайнаўскага павету, заваявала першае месца ў конкурсе «Шклянка малака для кожнага вучня». Конкурс аб'явіў акруговы аддзел Саюза малачарскіх спулдзельняў разам з кураторыяй і «Газетай Беластоцкай». Курашаўская школа дабіваецца ўжо першага месца другі раз запар. Другое месца прызнана школе ў Далубове (Сяміцкі павет, а трэцяе — школе ў Арэшкаве (Гайнаўскі павет).

### II МЕСЦА

Зухі з Бельска занялі II месца ў зуховым спартыўным шматбор'і, якое штогод арганізуе Камэнда харугві ЗГП у Беластоку. Бельскія зухі ўступілі толькі падставовай школе № 22 з Беластока. Віншуем.

(яч)




**NIEDZIELA, 18.VI.**

8.30 Program dnia. 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 9.00 „W starym kinie". 10.00 „Tomo" — rep. film. 11.00 VII Olimpiada Wiedzy Społ.-Polit. 12.00 Dziennik. 12.15 Koncert Orkiestry Polskiego Radia i Telewizji w Krakowie. 13.00 „Przemiany". 13.30 Dla dzieci: Teatrzyk dla Przedszkolaków — „Leśny skrzat udziela rad" — widowisko A. Chodorowskiej wg bajki L. Krzemienieckiej. 14.15 „Piórkiem i węglem". 14.45 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 17.45 „Piosenka dla Ciebie". 18.45 Film muzyczny TVP — premiera miesiąca nr 8. „Ballada młyńskiego koła". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — film franc. 21.00 PKF. 21.10 „Gallux-show". 22.10 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK, 19.VI.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Echo stadionu". 17.05 „Ogrody zoologiczne" — film dok. NRD. 17.50 „Eureka". 18.30 „Wiosna 72" — program z Międzynarodowych Targów Poznańskich. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: G. B. Shaw — „Cezar i Kleopatra". 21.35 „W 30 minut dookoła świata". 22.05 „Spotkanie z Peterem Laggerem" (bas) — Szwajcaria. 22.30 Dziennik.

**WTOREK, 20.VI.**

10.00 „Sędzia" — film czechosł. odc. III („Wyrok"). 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Perspektywy zawodowego szkolenia młodych rolników po ukończeniu zespołu PR". 15.20 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Słońce, zieleń i gastronomia". 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sędzia" — film czechosłowacki odc. III („Wyrok"). 20.50 Program rozrywkowy. 21.30 „Komu dwója" — mag. oświatowo-wychowawczy. 22.05 Dziennik.

**ŚRODA, 21.VI.**

9.35 „Na miłość nigdy nie jest za późno" — film fab. węg. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Zabytki naszej kultury". 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Kino z komentarzem", „Ludzie z różnych stron świata" — film. 17.30 „Ogień i zieleń" — III program („Zwyczaje i obrzędy"). 18.00 „Sylwetki X Muzy" — Tadeusz Szmidt. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Światowid" — „Świat i Polska". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.10 PKF. 20.30 X Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Witamy poraz dziesiąty". W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.50 Program filmowy. 23.30 X Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Festiwalowy Kabaret".

**CZWARTEK, 22.VI.**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Informacje, Towary, Propozycje. 18.00 „Poligon". 18.30 TV Kurier Lubelski. 18.50 Program publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.30 X Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Komu piosenkę". W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**PIĄTEK, 23.VI.**

10.00 „Kto komu otworzy drzwi" — film fab. rum. 15.20 i 22.55 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Teleferie". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 Magazyn Medyczny. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Kraj". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Turystyka i wypoczynek". 20.30 X Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Debiuty opolskie". W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**SOBOTA, 24.VI.**

10.00 „Kto chce zabić Jessi" — film fab. czechosł. 15.40 Program dnia. 15.45 Program I proponuje. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Czy lubisz wiersze?". 17.10 „Spotkania z przyrodą". 17.35 „Bieg po zdrowie". 18.00 „Bitwa pod Cedynią" — program dokument. 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.30 X Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Mikrofon i Ekran". W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.30 Film TVP.




**Piątek, 16 czerwca**

7.35 Nowiny. 7.45 Bajka dla dzieci. 8.15 Film fab. 9.25 W eterze „Młodość". 10.00 Koncert estradowy. 11.30 Nowiny. 14.15 Program dnia. 15.30 Film fab. dla dzieci. 16.00 Panorama nowin. 16.10 Film animowany dla dzieci. 17.35 „Chleb i sól". Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.40 Panorama nowin.

**Sobota, 17 czerwca**

7.00 Program dnia. 7.35 Nowiny. 9.30 Filmy animowane dla dzieci. 10.00 Przegląd międzynarodowy. 11.15 Tańczcie z nami. 12.00 Spotkanie przyjaciół. 12.45 Nowiny. 12.50 Spotkania muzyczne. 13.55 Film fab. 16.00 Nowiny. 16.10 Spektakl TV. 17.15 Stadion KWZ. 19.00 Czas. 19.30 Spektakl Teatru Wielkiego. 20.00 Program sportowy. 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 18 czerwca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 8.15 Kiosk muzyczny. 10.25 Białe i czarne. 10.45 Współczesne pieśni kompozytorów radzieckich. 11.55 Śpiewa G. Pisarenko. 12.10 Dla żołnierzy. 12.40 Kronika filmowa. 12.50 Uniwersytet ludowy. 13.55 Filmy animowane. 14.25 Film fab. 15.55 Piłka nożna. Mistrzostwa Europy. Finał. 18.00 Klub filmowy. 19.00 Czas. 19.30 Boks. Mistrzostwa ZSRR.






*Будынкі «Захэнты» на вуліцы Канапніцкай.*

Зараз больш 50 працэнтаў усіх жыхароў Беластока жыве ў новым будаўніцтве. Найбольш людзей атрымала кватэры жыллёвага кааператыва «Захэнта». Кааператыў гэты заснаваўся ў 1958 годзе, і, як лёгка можна палічыць, існуе ўжо 14 год. Першы жыллёвы дом быў перададзены ў карыстанне ў 1959 годзе. Знаходзіўся ён на вуліцы Падлеснай 17а. Быў гэта будынак на 35 кватэр. Першыя жылыя кватэры атрымалі перш за ўсё рабочыя розных прадпрыемстваў. Пачаўшы ад 1960 года лік «захэнтаўскіх» памяшканняў сістэматычна павялічваўся. Кааператыў атрымаў правы лакалізацыі сваіх будынкаў пры вуліцах: Э. Ажэшка, Гратгера, Алеі 1 мая, Гетманскай і Сталэчнай. Амаль усе большыя прадукцыйныя прадпрыемствы ў Беластоку, як БЗПБ Фасты, фабрыка Сяржана, Спомаш, Ухвыты і іншыя, склалі ў «Захэнце» свае фінансавыя сродкі на пабудову жылых кватэр. Варта адзначыць, што ўжо на сваё дзесяцігоддзе кааператыў меў 49 жылых будынкаў, у якіх атрымала кватэры 10 тысяч жыхароў. У 1968 годзе была распачата пабудова 4 будынкаў па 100 жылых кватэр кожны на пасёлку «Пяста». Пры пабудове іх выкарыстаны новы, дагэтуль невядомы на Беласточчыне, прамысловы метад, так званы вялікаплітавы ОВТ. Новы метад дазволіў будаваць хутчэй і больш функцыянальныя кватэры. У будучыні на пасёлку «Пяста» будзе пражываць 40 тысяч жыхароў. Зараз пабудавана тут 8 новых будынкаў на 560 кватэр кожны. Ёсць тут новы, па-сучаснаму абсталяваны гандлёвы «Суперсам», прадшколле і г.д. У плане прадбачваецца пабудаваць яслі, школу, святліцу, басейн, кіно, тэатр і рад прадпрыемстваў паслуг.

Заканчэнне пабудовы пасёлка назначана на 1985 год.

У апошнія гады жыллёвы кааператыў будуе запланаваныя колькасці кватэр. I так, у 1970 годзе пабудаваў ён 776 кватэр на планаваных 640, а ў 1971 годзе — 710 кватэр на планаваных 550. Таму гэты кааператыў займае зараз першае месца ў спаборніцтве між беластоцкімі жыллёвымі кааператывамі. На 1972 год прадбачана перадаць у карыстанне 615 кватэр і павільёна на пасёлку імя Міцкевіча. Дагэтуляшнія поспехі ўжо зараз з'яўляюцца найлепшай гарантыяй, што план гэты будзе перавыкананы. Кааператыў пабудаваў дагэтуль некалькі кавярняў, рэстаранаў, святліц і г.д. У будучыні намераны ён будаваць тры жыллёвыя «блёкі» пад патранатам ЗМС.

Варта ведаць: кожны 12-ты беластачанін з'яўляецца жыхаром «Захэнты». У жыллёвых будынках «Захэнты» пражывае 4.400 сем'яў з агульным лікам 15.100 асоб. Найбольш жыхароў жыве на пасёлку імя Міцкевіча — каля 8 тысяч, затым на пасёлку «Пяста» — каля 4 тысяч і на пасёлку «Маладых» — 3500 чалавек.

У «Захэнту» запісваюцца найбольш маладыя дзяўчаты. Часта бывае так, што, калі атрымліваюць яны ўласныя кватэры, выходзяць замуж. Дык смела можна меркаваць, што перспектыва ўласнай кватэры дапамагае ў карыснай, з пункту гледжання дзяўчат, змене цывільнага стану.

Пры кааператыве «Захэнта» існуе рамонтна-будаўнічае прадпрыемства, якое будуе таксама новыя рэстараны, прадшколлі і гаражы. Выконвае яно таксама розныя паслугі на суму больш 2 мільёнаў зл. у год.

Жыхары пасёлка і актыў кааператыва «Захэнта» шмат працуюць грамадска. Будуюць яны спартыўныя пляцоўкі, садзяць дрэўцы, будуюць прадшколлі і яслі. I так, грамадскім чынам было пабудавана прадшколле на пасёлку «Пяста» (кошт прац 614 тысяч зл.) і ясляў на пасёлку імя Міцкевіча (400 тысяч зл). Як мы ўжо адзначылі, кааператыў мае свой шырокі актыў. У даны момант абавязкі старшыні рады кааператыва выконвае мгр Ян Зенюк (сакратар ГП БГКТ). Вялікай актыўнасцю і ахвярнасцю выдзяляюцца такія члены рады, як Рамуальд Чэрэп, Генрык Бялевіч, Мілецыюш Андзілеўка, Здзіслава Блёх, Януш Мароз і Чэслаў Лукашэвіч. Грамадскія і штатныя працаўнікі «Захэнты» вядуць таксама шырокую культурную і выхаваўчую дзейнасць сярод дзяцей і дарослых. Падсумоўваючы дзейнасць кааператыва «Захэнта», варта адзначыць, што пабудаваныя ім у апошнія гады пасёлкі вельмі сучасныя, пабудаваны паводле навейшых урбаністычных узораў, і што яны — прыгажосць нашага 170-тысячнага Беластока.

*Янка Цялушэцкі*

## ФАЛЬКЛОР

ПРЫМАЦКАЯ




*Расла, расла калінанька і ягад ні мела.*
*А хто ў прымах ні бывае, той гора ні знае.*
*А хто ў прымах ні бывае, той гора ні знае.*
*А я прымак, а я прымак усё гора знаю:*
*Кулачэнькі пад бачэнькі і спаці лягаю.*
*Кулачэнькі пад бачэнькі і спаці лягаю.*
*Встаю рано, встаю рано — іду ў поле гараці,*
*Заказаў я сваёй жонцы абед гатаваці.*
*Заказаў я сваёй жонцы абед гатаваці.*
*Наварыла мая жонка лебяды быз солі,*
*Сеў прымачак перабедаў і сказаў: «Даволі!»*
*Сеў прымачак перабедаў і сказаў: «Даволі!»*
*Ні паспеў да прымачэнька із-за стала злезці,*
*Ано ж кажа яго цёшча: «Нясі свіням есці!»*
*Ано ж кажа яго цёшча: «Нясі свіням есці!»*
*Бадай свіне паздыхалі, а хата згарэла —*
*Як мне жыце прымацкое ўжэ надаело.*
*Як мне жыце прымацкое ўжэ надаело.*
*I зышлісе да й суседзе, сталі гаварыці:*
*«I твой прымак, і мой прымак ні хочуць рабіці».*
*«I твой прымак, і мой прымак ні хочуць рабіці».*
*Наслухаўся прымачэнько в сенях за дзвярыма,*
*Зайшоў у белую светліцу — абліўся слязіма.*
*Зайшоў у белую светліцу — абліўся слязіма.*
*Будзе міне, будзе міне жонка спамінаці,*
*Як я буду сівы волы з дуброва гнаці.*
*Як я буду сівы волы з дуброва гнаці.*
*Зарыкалі сівы волы з дуброва йдучы,*
*Заплакала мая жонка пасцельку сцялючы,*
*Заплакала мая жонка пасцельку сцялючы.*
*Пасцель бела, пасцель бела, пасцель пухавая,*
*Мая жонка пасцель сцеле, слезьмі праліваe.*
*Мая жонка пасцель сцеле, слезьмі праліваe.*

Запісаў 22 красавіка 1972 г. Мікалай Гайдук ад Лідзіі Салавей 1921 г. нараджэння, якая жыве ў вёсцы Лявонавічы, Беластоцкага павету. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.

## XVII Міжнародная кніжная ярмарка

На XVII Міжнароднай кніжнай ярмарцы, якая адбывалася ад 14 па 21 мая бягучага года ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве, 257 выдавецтваў з усіх кантынентаў зямной кулі запрапанавала звыш 80 тысяч выдавецкіх пазіцый. Экспазіцыі занялі велізарны абшар чатырох ніжніх паверхаў Палаца.

У гэтым моры выдавецкай прадукцыі сучаснага свету асабліва багата была прадстаўлена Краіна Саветаў. У снежні 1972 года спаўняецца 50-ая гадавіна ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Таму ўся экспазіцыя выстаўкі на Міжнароднай ярмарцы ў Варшаве падпарадкавана адзінаму плану — паказаць росквіт навукі і тэхнікі, культуры і мастацтва СССР і кожнай з саюзных рэспублік. Каля 3 тысяч выданняў па самай разнастайнай тэматыцы на рускай мове, мовах народаў СССР і некаторых зарубежных краін змог убачыць наведвальнік кніжнай ярмаркі.

Цікава было даведацца, што на працягу апошніх 25 год у СССР выдадзена звыш 1600 кніг польскіх аўтараў агульным тыражом 59 мільёнаў экземпляраў.

Вельмі эфектна была прадстаўлена на ярмарцы выдавецкая прадукцыя Беларускай ССР. Кнігі беларускіх выдавецтваў адзначаюцца каларытнасцю афармлення і высокай паліграфічнай тэхнікай. Зрок наведвальнікаў прыцягвалі манаграфія «Беларусь Савецкая», «Гісторыя Мінска», «450 год беларускага кнігадрукавання», «Беларускі фальклор», выданні твораў беларускіх пісьменнікаў, дзіцячая і маладзёжная літаратура.

(мг)

цёмны і галодны мужык не кахае свайго пана і абыякава адносіцца да такой высокай матэрыі, як айчына. З гэтых прычын Дунін-Марцінкевіч шукаў выйсця з сітуацыі. Прагнуў палепшыць лёс селяніна. Навучыць яго, наблізіць да землеўласніка, прывязаць патрыятычным пачуццём да айчыны. Прагнуў палепшыць быт селяніна, не пагаршаючы быту памешчыка, а гэта была нялёгкая справа.

Дунін-Марцінкевіч адгроб, а можа стварыў самастойна чачотаўскую канцэпцыю ўстанаўлення добрых і прыязных адносін паміж селянінам і панам. Паны — бацькі, а сяляне — дзеці, — вось элементы яго ідэйнай і паэтычнай формулы. Найбольш варожыя і непрымірымыя класы тагачаснага грамадства павінны былі падаць сабе рукі і жыць у згодзе і любві. Марцінкевіч гэтую канцэпцыю вылажыў у адной са сваіх прадмоў, у якой сказаў выразна, што яго творчасць мела пацягнуць сялянскія сэрцы ў бок паноў. З гэтага вынікае, што ідэйны бок творчасці і ідэалогіі пісьменніка быў парочлівы, недарэчлівы і абсурдны. Нельга аднак адным сказам крытыка перакрэсліваць тысячу сказаў паэта, бо яго творчасць ніколі не змяшчаецца ў вузкіх рамках адной формулы і адной ісціны.

## ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ

### АБАВЯЗКОВАЯ СТРАХОЎКА РУХОМАЙ МАЁМАСЦІ Ў СЕЛЬСКІХ ГАСПАДАРКАХ

За сельскую гаспадарку лічыцца абшар зямлі не меншы 0,5 га, а таксама прысядзібныя ўчасткі ў сельскіх вытворчых кааператывах. З гэтага вынікае, што гаспадаркі, абшар якіх меншы чым 0,5 га, не падлягаюць пад распараджэнне Рады Міністраў аб абавязковай страхоўцы рухомай маёмасці ў сельскіх гаспадарках. Распараджэнне адносіцца да ўласнікаў гаспадаркі, а таксама тых, хто гаспадарыць на чужой зямлі.

Страхоўцы падлягаюць:

1. Ураджай, зложаны ў будынках, у тарпах, стагах, капцах, склепах, харчы, а таксама паша для жывёлы.

2. Жывы і мёртвы інвентар, будаўляныя матэрыялы і іншыя рэчы, патрэбныя ў гаспадарцы, а таксама незакончаныя будынкі.

3. Хатнія рэчы ўласніка гаспадаркі і членаў яго сям'і, якія супольна з ім вядуць хатнюю гаспадарку.

Выключаны з-пад страхоўкі аўтамабілі і матацыклы, грошы, вырабы з плаціны, золата і серабра, ювелірныя вырабы і гадзіннік, а таксама алкагольныя напіткі. Гэтыя рэчы могуць быць застрахаваны на добраахвотных асновах.

ПЗУ адказвае за шкоды, выкліканыя пажарам, перуном, выбухам, упадкам паветранага сродка транспарту, паводкай, ураганам, западаннем зямлі, градам, а што датычыць жывога інвентара — таксама электрычным токам. ПЗУ адказвае і тады, калі рэчы загінулі, альбо былі ўкрадзены ў часе выпадку.

ПЗУ не адказвае за шкоду, калі выклікана яна мэтанакіравана ўласнікам або ўзнікла ад сушэння пры агні лёну, канапель і тытуню.

Страхоўка адносіцца да рухомай маёмасці, якая знаходзіцца ў будынках, на панадворку і на полі, якое належыць да данай гаспадаркі. Адказнасць ПЗУ пачынаецца ад дня паўстання гаспадаркі, або паўстання змен у гаспадарцы. Кампенсацыя выплачваецца ў 100% устаноўленай вартасці.

ПЗУ ўручае ўласніку дакумент аб застрахаванні, у якім падаецца абшар гаспадаркі, сума, на якую ацэнена маёмасць і велічыня складкі. Калі ПЗУ ацаніла маёмасць вышэй або ніжэй ад сапраўднай прынамсі на 10%, уласнік можа патрабаваць спецыяльнай ацэнкі.

Уласнік гаспадаркі абавязаны ўтрымоўваць маёмасць у належным стане, прытрымлівацца супрацьпажарных правілаў, якія служаць прадухіленню шкоды. У выпадку, калі шкода ўзнікла, павінен паведаміць на працягу 7 дзён у ПЗУ або ў грамадскую раду нарадовую.

За шкоды ва ўраджаі плацяць цэны, якія абавязваюць на пунктах скупкі, а калі ўраджай кантрактаваны — цэны кантрактныя.

Кампенсацыя за шкоды ў конях і быдле ўрэгулявана асобным распараджэннем Рады Міністраў. За шкоды ў іншым жывым інвентары кампенсацыя выплачваецца паводле цэн, якія абавязваюць на пунктах скупкі.

За іншую маёмасць выплачваецца кампенсацыя паводле мясцовых цэн. Пры вызначэнні шкоды ў гаспадарчым інвентары і прадметах хатняга ўжытку адлічваецца 20% як вартасць зужыцця.

У асноўным выплачваецца 100% вартасці шкоды ў межах сумы застрахавання. Аднак, калі шкода ўзнікла ў выніку неасцярожнасці, або нядбальства ўласніка, кампенсацыя зніжаецца да 80%.

*В. Склубоўскі*

III З'ЕЗД РЭГІЯНАЛЬНЫХ ТАВАРЫСТВАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ЯК ГЭТА БЫЛО Ў ЦЕХАНОЎЦЫ

Менавіта тут нарадзіўся ў 1739 г. і правёў амаль усё сваё жыццё славуты вучоны Кшыштоф Клюк. Гэта яго называлі «польскім Дарвінам», гэта ён першы прадставіў Эдукацыйнай камісіі падручнік па батаніцы, менавіта і яго працы спрыялі пералому ў прыродазнаўчых навуках польскага Асветніцтва. Яго працы па сельскай гаспадарцы былі надзвычай прагрэсіўныя, як на тыя часы. Ужо 200 гадоў таму назад К. Клюк звярнуў увагу на тое, што дзеці ў сельскай гаспадарцы не мусяць наследаваць бацькоў, прыдаючы гэтым самым вялікае значэнне прагрэсу ў сельскай гаспадарцы.

...І пачалі ў 1966 г. адбудоўваць гістарычны палац у Навадворах (акраіна Цеханоўца), які ў 1971 г. быў урачыста аддадзены ў карыстанне. Тут арганізоўваецца сельскагаспадарчы музей імя Кшыштофа Клюка, які паказвае гісторыю развіцця земляробства, сельскагаспадарчыя прылады, народныя станкі з тэрыторыі падляшска-мазавецкіх зямель. Ёсць тут і пакой, прысвечаны К. Клюку, а таксама пакой, дзе знаходзіцца рухомая выстаўка, якая знаёміць жыхароў Цеханоўца штораз з іншымі творамі мастакоў і разьбяроў сусветнай славы. Побач з палацам растуць адзін за другім будынкі будучага скансена, а цяпер нават ёсць прапанова, каб побач са скансенам паставіць сучасную, поўнасцю механізаваную абору, каб людзі глядзелі, рабілі вывады і... вучыліся, «як было, а як быць павінна».


У палацовай аранжэрэі.


Сельскагаспадарчыя прылады ў музеі імя К. Клюка.

Вялікая любоў да Айчыны пачынаецца з малой — з прывязанасці да свайго кута, да роднай хаты, да бярозы пад акном. Мілаваць і шанаваць месца, дзе ты нарадзіўся, дзе кожны твар — свой, горшы ці лепшы, але свой, — ці ж можа быць што больш высакароднага ад гэтага?!

Вось гэтыя мэты і былі падставай стварэння 10 гадоў таму назад Таварыства любіцеляў Цеханоўца.

Цехановец — невялікі гарадок: усяго 3.900 жыхароў, а ляжыць над ракой Нурэц, на самым скраі Сямяціцкага павету, ужо на пагранічча Варшаўскага ваяводства.

Жыхары Цеханоўца далі прыклад іншым. Як грыбы пасля дажджу, пачалі ўзнікаць падобныя таварыствы — у Белавежы, Драгічыне, Аўгустове, Сувалках і іншых гарадах Беласточчыны, і ёсць у нас ужо сёння 15 рэгіянальных таварыстваў.

Клапоцячыся аб сваім рэгіёне, робяць яны вялікую работу.

Энтузіясты Цеханоўца ўспомнілі перш за ўсё, што і ў іх ёсць цікавыя традыцыі. Суседні Драгічын, напрыклад, заўсёды ганарыўся сваёй гісторыяй. А было ж што ўспомніць і з гісторыі Цеханоўца...

І вось глядзіш сёння на Цехановец і радуешся — чысценька, утульна, асфальтаваныя вуліцы, адбудаваны не толькі палац, але пабудаваны вялікі рэстаран і кіно, якія б пасавалі да найлепшага ваяводскага горада. Над ракой Нурэц — кампінговыя домікі. Ёсць і новы дом культуры. Адкрыты дзверы перад найбольш выбрэдным турыстам, ды і жыхарам Цеханоўца — вялікая прыемнасць.

А пры ўездзе ў горад вас вітае надпіс, што ўязджаеце вы ў горад-чэмпіён гаспадарнасці ўсёй краіны за 1971 г. Кажуць, што добраму працаўніку варта і далажыць. Дык жыхарам Цеханоўца дзяржава за іх гаспадарнасць 3 месяцы таму назад дала ўзнагароду 4 млн. злотых. Напэўна і гэтыя сродкі будуць поўнасцю выкарыстаны на карысць горада.

...У вялікай зале палацу ў Навадворах сабраліся 20 мая г.г. прадстаўнікі рэгіянальных таварыстваў Беласточчыны. Ёсць і наша Ніна Мушынская са сваімі дзяўчатамі з Гарадка. Прыехалі афіцыяльныя госці з Беластока, прыехалі таксама ўлады Сямяціцкага павету.

III ваяводскі з'езд рэгіянальных таварыстваў быў спалучаны з святкаваннем 10-годдзя Таварыства любіцеляў Цеханоўца нездарма. Жыхары Цеханоўца спаўна заслужылі на гэта. І рыхтаваліся яны да прыёму гасцей вельмі старанна. Запрасілі ў свой горад беластоцкіх пластыкаў, якія апрацавалі і прадставілі нагляднны план развіцця горада. На свята прыехала з Беластока таксама Цэпэлія, на прылаўках якой прадаваліся вырабы тутэйшых умельцаў. Былі запрошаны таксама рэгіянальныя артысты-аматары з курпёўскай вёскі Лысэ, самадзейныя артысты з Сувальскага павету. Для гасцей выступілі таксама самадзейнікі з Цеханоўца. У мясцовым кіно «Метэор» былі паказаны таксама фальклорныя фільмы і асветна-гаспадарчыя фільмы, перад якімі з лекцыямі выступілі людзі непасрэдна ствараючыя фільмы і тэлевізійныя перадачы.

На з'ездзе выступалі дзеячы розных рэгіянальных таварыстваў, якія дзяліліся сваім вопытам, а гэта, несумненна, будзе далей узбагачваць формы працы рэгіянальных таварыстваў.

На прыкладзе Цеханоўца відаць, што і ў малой мясціне можна знайсці непрамінаючыя вартасці і вызваліць грамадскую ініцыятыву, калі ёсць толькі ахвота да працы і людзі сапраўды кахаюць сваю зямлю.

*Ада Чэчуга*
*Фота Цаф — Р. Сянько*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## ЯШЧЭ РАЗ АБ ЦВЁРДЫХ СЫРАХ, ЯКІЯ ПРАДУКУЮЦЦА Ў ПОЛЬШЧЫ

Спосаб вырабу і названне гэтага сыра мае французскае паходжанне. Справа ў тым, што сыр гэты пачалі прадукаваць упершыню ў кляштары трапістаў у адной з французскіх мясцовасцей. Гэты сыр невысокі, каля 7 см, а дыяметр яго — 15 см. Зверху пакрыты ён натуральнай скуркай, якая ўзнікла ў часе даспявання. Часамі гэтая скурка пакрываецца яшчэ слоем парафіну. Сыр трапістаў мае лагодны, кіславаты, а часам нават крыху востры смак. Дапускаюцца нязначныя адхіленні ад тыповага смаку і запаху, напрыклад у другім класе якасці смак можа быць умеркавана салоны. У сярэдзіне сыра відаць размешчаныя даволі раўнамерна нерэгулярныя авальныя дзіркі велічынёю з зярно пшаніцы. Мякіш сыра эластычны і мае светла-жоўты колер.

### ТЫЛЬЗІЦКІ СЫР

Гэты сыр належыць да найбольш папулярных і распаўсюджаных у Польшчы і ў прыбалтыйскіх краінах. Ён мае спецыфічны, востры смак, умеркавана салоны. Сыр мае выгляд нізкага цыліндрычнага круга дыяметрам 25 см, вышынёю 11 см, важыць каля 4,5 кг. Калі сыр перарэзаць, то мы ўбачым няшмат прадаўгаватых дзірак.

### СЫР ЧЭДАР

Гэты сыр масава прадукуецца ў Англіі і Амерыцы. Ён цвёрды, без дзірак, мае кіславаты смак і форму высокіх цыліндраў. Важыць каля 30 кг.

### МЫСЛІЎСКІ СЫР

Мысліўскі сыр мае форму плоскага цыліндра. Важыць ён каля 0,5 кг. Скура сыра пакрыта парафінам. У мякішы сыра выступаюць дзе-нідзе дробныя дзіркі. Мякіш гэтага сыра мае каля скуркі колер крыху цямнейшы. Сыр адзначаецца пікантным смакам і вяндзоным запахам.

### СЫР САЛАМІ

Сыр саламі адрозніваецца ад іншых сыроў авальнай прадаўгаватай цыліндрычнай формай. Адзін сыр важыць каля 1,2 кг, дыяметр — каля 8 см, даўжыня — 25 см. У Польшчы прадукцыя гэтага сыра пачалася ў Жэшоўскім ваяводстве, маючым вялікія сыраварскія традыцыі. Прадукуецца ён у двух гатунках — больш і менш тлусты. Кансістэнцыя мякішу добра даспелага сыра эластычная, колер мае аднастайны, крэмавы, з жоўтым адценкам. Скурка, пакрытая парафінам, гладкая і эластычная. Тыповы смак сыра саламі лагодны, крыху кіславаты альбо нават і востры. Могуць быць аднак нязначныя адхіленні ад тыповага смаку.

У двух апошніх нумарах мы падалі апісанне некалькіх гатункаў цвёрдых сыроў, прадукуючыхся ў Польшчы, а ў наступным нумары раскажам аб сырах мяккіх.

*Гаспадыня*

ЯЎГЕН БЕРАЗНЯК




Прымчаўся Граза — мой верны памочнік, як заўсёды, ззяючы, поўны самых радасных надзей:

— Павіншуй, капітан, атрымаў назначэнне ў артдывізіён.

А вечарам прыйшоў Паўлаў. І не адзін, а з ад'ютантам і нейкім незнаёмым афіцэрам. З бяздонных кішэняў ад'ютанцкага шыняля была ўрачыста выцягнута фляга са спіртам:

— За сустрэчу, за строгае выкананне сухога закону пры выкананні баявога спецзадання.

Мы выклалі на стол свае запасы. Я прадставіў Паўлаву папаўненне «Голаса» — групы дыверсантаў-разведчыкаў Яўсея Блізнякова.

— Ну, здаравенькі булы, казакі!

Шыракаплечы, мажны, крыху грузнаваты для сваіх гадоў, з глыбока схаванай хітраватай смяшынкай у вачах Паўлаў і сапраўды быў падобны на гогалеўскага атамана.


Лізавета Валагодская — Вольга — Комар.

Шмат цёплых слоў было сказана, шмат харошых песень праспявана ў той незабыўны для нас вечар. Паўлаў пачаў збірацца. Яго чакала начная работа. Аднекуль з захаду ішлі ад нашых баявых таварышаў новыя радыёграмы: «Паўлаву, тэрмінова...»

З усёй групы засталося нас трое: я, Вольга, Анка.

Першыя дні я быў заняты немінучай канцыляршчынай. Сто пяцьдзесят шэсць дзён у тыле ворага цяжка клаліся ў скупыя радкі справаздачы.

Група сабрала і перадала ў штаб больш як 150 радыёграм аб дыслакацыі фашысцкіх дывізій і паветраных эскадраў, штабах і аэрадромах, воінскіх перавозках па чыгунках і шасейных дарогах, прыкладна дванаццаць тысяч лічбавых груп шыфру.

У баявых аперацыях група «Голас» знішчыла больш як сто гітлераўцаў, пусціла пад адхон некалькі эшалонаў, падарвала некалькі мастоў.

Як мне стала вядома пазней, камандаванне дало такую ацэнку дзейнасці групы: «Матэрыялы групы «Голас», якая дзейнічала ў надзвычай цяжкіх і складаных умовах, былі выключна дакладныя і важныя: усе разведданыя былі пацверджаны баямі».

У дні берлінскай аперацыі я знаходзіўся не на галоўным напрамку, а на Дрэздэнскім. Да гэтага часу і Грышы ўжо не было з намі. У Дрэздэн разам са штабам фронту з усёй групы «Голас» трапілі двое: я ды Вольга.

У Дрэздэне, на Эльбе, нас застала перамога.

Горад дыміўся ў развалінах.

Мы ішлі па вуліцы, запруджанай войскамі. Дэсантнікі ў маскхалатах, не выпускаючы зброі з рук, спалі на цёплай брані «Т-34». Ім не перашкаджалі ні святочная страляніна, ні песні, ні танцы пад заліхвацкія гукі соцень гармонікаў.


Яўген Беразняк — Голас.

